цып заявы 40 бацькоў, каб дзеці іхнія вучыліся на матчынай мове, але з агаворкаю, што калі побач з гэткаю заяваю ў даным школьным абводзе знойдзецца 25 бацькоў, якія пажадаюць вучыць дзяцей папольску, дык навука ў школе будзе адбывацца на дзьвёх мовах. Настаўніцкія сэмінарыі маюць быць двумоўныя. Сярэднія школы таксама. Артыкул 7 школьнага праекту жыўцом пацьвярджае цяперашнюю практыку: „У сярэдніх агульнаадукацыйных школах, — кажа гэты артыкул, — як прыватных, так і ўрадовых з выкладовае моваю няпольскаю— абавязковаю зьяўляецца навука папольску: польскае мовы й літэратуры, гісторыі і географіі Польшчы разам з навукаю аб сучаснай Польшчы“.

У сэнсе пэдагогічным проект ня вытрымае найменшае крытыкі.

# Маленькі фэльетон.

## З навукі і жыцьця.

### 1. Мэдыцына і магія.

У цяперашні час самыя цёмныя і неадукованыя людзі разам з самымі вучонымі прызнаюць мэдыцыну — за навуку, тады як некальні сот гадоў назад ня толькі ў Беларусі, але і ў Заходняй Эўропе — ў Нямеччыне, Францыі, Англіі, яе лічылі толькі галінаю окультных навукаў.

Мэдыцына была тады часткаю магіі, і насяленьне не адрозьнівала вучонага доктара-мэдыка ад мага-прапракаваццеля, астролёга альбо алхіміка.

Але таму, што навука паагул у тыя часы стаяла на нізкай ступені, вучоныя не карысталіся яшчэ тымі навуковымі мэтодамі, якія ўведзены цяпер ўва ўсе галіны мэдыцынскае навукі, дык саўсім зразумела, што самыя вучоныя лекары былі прапіты гэткімі забабонамі і часта ўжывалі гэткія лякарствы, ад якіх адмовіўся-б самы цёмны беларус самае глухое вёскі.

Сярэднявечныя лекары прабавалі вярнуць моладасьць і сілу старым людзям. У сярэднія вякі здавалася, што кроў маладых людзей і дзяцей, галоўным чынам, дзяўчатак — мае ў сабе моц вярнуць юнацкую сілу і рабіць маршчыністую скуру старых людзей сьвежаю і гладкаю.

Адсюль просты вывад: калі будзем піць кроў малых дзяцей, дык памаладзеем. З аналаў сярэднявечных судоў вядома, што графіня Батоці ў 1590 г. абвінавачвалася ў забойстве 300 дзяцей, кроў якіх піла і ўжывала для ваннаў.

Бедная графіня замест моладасьці адтрымала вяроўку. Яна была казьнена па прыгаварьі суда ў пачатку 1591 году. Гісторыя ведае шмат падобных прыкладаў. Кароль Людовік II піў дзіцячую кроў, каб памаладзець. У 1750 годзе ўжо ў даволі новы час, у эпоху „прасьветы“ нейкі князь у вялікім гэрцогстве Бадэнскім адтрымаў пазваленьне ад свайго монарха „хапаць пакіненых дзяцей, кам браць ванны з іхняе крыві“.

Але не адна кроў дзяцей і юнакаў мела, паводлуг разуменьня нашых продкаў, лячэбныя свойствы! Найлепшым лякарствам ад рэўматызму лічылася масьць з чалавечае клустасьці.

Праўду кажучы, недалёка ўцякла ад гэтага жахоўнага лякарства і цяперашняя настойка з мурашак, якая ў нас, у Беларусі, ужываецца. Пэўна-ж, „настаянь“ на сьпірце сотні мурашак гэта ня тое, што забіць чалавека, каб вытапіць з яго клустасьць, але памагае гэтае лякарства, хіба што, гэтак-жа сама, як і першае — гэта знач. ніяк.

Парашок з чалавечых касьцей меў нібыто таямнічую сілу ўзбуджаць любоў да таго, ад каго прыняты гэты парашок.

Попел ад спаленых валасоў данае асобы, прыняты разам са страваю другою асобаю, нішчыў яго сардэчную прыхільнасьць да першае асобы.

Больш разумным лякарствам, ужываным раней, трэба прызнаць ...жаночае малако.

Сучасная навука прызнае жаночае малако лепшым па карысьці напіткам у сьвеце, які значна пераважае лікам карысных элемэнтаў малако каровы і казы.

I вось у 17 сталецьці нейкага, саўсім зьдзіцянеўшага ад худзізны з прычыны распуснага жыцьця, князя паілі жаночым малаком, каб вярнуць яго патрачаныя сілы.

Чатыры мамкі прыходзілі да яго ў розную пару дня—і паўзвар'яцелы князь з задаваленьнем ссаў малако.

Але-ж, нічога — лякарства гэтае яму не памагло!

Праўда, што ён рассыцеў, як кнур, за два месяцы, але на трэці месяц звар'яцеў.

Пэўна-ж не ад малака сваіх карміцелек! Вар'яцтва падходзіла да яго і ўжо нішто не магло адхіліць яго. Але малако зрабіла, што трэба — ён рассыцеў, як толькі мог, так што сучасныя з ім лекары маглі-б вытапіць з яго шмат клустасьці дзеля сваіх цудадзейных анты-рэўматычных масьцяў.

### 2. Новы календар.

Звычайна ў эпоху рэвалюцыяў, калі валяцца ўсе зямныя куміры, рэвалюцыйны народ ідзе па шляху зьнішчэньня ўсяго таго, што было створана раней, вельмі часта ня спыняючыся перад зьнішчэньнем таго, што якраз варта было-б пакінуць не закранутым. Як вядома Вялікая Француская Рэвалюцыя канца XVIII сталецьця зрабіла рэформу календара, зьмяніўшы ўсе назовы месяцаў і завёўшы таксама й іншыя зьмены, але рэформа гэтая мала прадуманая і, папраўдзе кажучы, патрэбная рэвалюцыянэрам толькі дзеля выяўленьня свайго рэвалюцыйна-зьнішчальнага духа, ня ўтрымалася і новы рэвалюцыйны календар праваліўся, даўшы месца ранейшаму, якога ён саўсім не рабіў лепшым і больш дасканальным. Бязумоўна той самы лёс будзе і новага бальшавіцкага календара, аб якім нядаўна пісалася ў газэтах і які мае складацца з 300 дзён у годзе, 10-х месяцаў па 30 дзён кожны і па 6 тыдняў, з якіх кожны складацца мае з 5 дзён. Сьвяты ўводзяцца цераз чатыры дні ў пяты, гэт. празваны „леніндзень“; само сабою разумеецца, што сьвяты царкоўныя зьнікнуць саўсім.

Няма няпэўнасьці, што ўведзены бальшавіцкім урадам календар гэты не пераажыве яго самога. Справа ў тым, што зьмены ў цяперашнім календары патрэбны ўсяго пастолькі, паскольні пажадана й магчыма яшчэ больш прыблізіць наш звычайны календар да календара астранамічнага. А штучнае дзяленьне дзён году на 10 месяцаў або на 8 ці на 6—і непатрэбнае і бязгрунтоўнае.

З саўсім іншымі мэтамі, якія нічога агульнага ня маюць з рэвалюцыйнымі плянамі, склікаецца ўвосень гэтага году ў Амэрыцы, найхутчэй што ў Нью-Іорку, спэцыяльны навуковы конгрэс, які мае на мэце рэформу календара ў сэнсе яго ўдасканаленьня. Маецца на ўвазе ўхіленьне цяперашняе неадпаведнасьці, несымэтрычнасьці ў разьдзяленьні тыдняў паміж месяцамі і неадпаведнае даўжыні месяцаў. Паведаміўшы аб гэтым ініцыятар рэформы календара амэрыканскі вучоны, праф. д-р Б. Ф. Янэй, матэматык і астраном амэрыканскага унівэрсытэту Вуста, прыхіляецца да надзелу году на 13 месяцаў. Кожны месяц будзе цягнуцца 28 дзён, кожны просты год — адзін дадатковы дзень, а кожны высакосны год (або цераз 4 гады) — два дадатковыя дні. Выгада календара Янэя крыецца ў тым, што ўсе дні тыдня будуць прыпадаць у кожным месяцы на адну заўсёды дату, дзякуючы чаму будзе дасягнена точнае устанаўленьне сьвяточных дзён. Калі конгрэс прыме постуляты праф. Янэя, дык новы календар можна будзе ўвясьці 1 студня 1928 году ўва ўсім сьвеце.

*М. Чарнаўскі.*

# Агляд прэсы.

Польская прэса спыніла сваю увагу на унесеных ужо у Сойм трох проектах законаў аб правох меншасьцяў. Правіцовы орган „Rzeczpospolita“ у передавым артыкуле, падпісаным Мар'янам Грэжэгорчыкам (№ 179 за 2 гэтага ліпня) пад загалоукам „Правы меншасьцяў“ піша:

Тры проекты законаў аб правох нацыянальных меншасьцяў у урадах, судох і школах, прынятыя Радаю Міністраў на прайшоўшым тыдні, а ўчора ўнесеныя ў Сойм, зьяўляюцца ў галіне заканадаўчага развіцьця Польшчы выпадкам першараднага значэньня. Бо яны азначаюць пачатак санацыйнае (аздараўляльнае) акцыі ўва ўнутраных адносінах, перш за ўсё, там, дзе сягоньняшнія адносіны найбольш пакідаюць чакаць лепшага, гэта знач. на ўсходзе Рэспублікі...

Зазначыўшы, што падняцьце гэтага пытаньня беспасрэдна па аходаньні першых труднасьцяў папрауленьня скарбу сьведчыць аб тым, што дзяржаўнае будаўніцтва пасоўваецца уперад адначасна ува усіх кірунках, аўтор далей кажа:

Новыя законапроекты зьвяртаюць на сябе асаблівую ўвагу ў сувязі з тою, якая ідзе яшчэ, бюджэтнаю дыскусіяю. Закончана ўжо ёй дасюль тры чацьверці найважнейшых Міністэрстваў, і па-за справамі чыста спэцыяльна-гаспадарчымі

# Стахурская.

*(Нарыс з натуры).*

I.

Старая Вільня яшчэ спала ў сваёй лагавіне абняўшы бягучыя воды Вяльлі, а ўжо ваколічныя горы ўскалыхнуліся і заківалі сваімі кучаравымі галавамі насустрач надходзіўшай раніцы, што, як кветка вясной, красавала ў далёкім паветры, вялізарна і ціха пасувалася з усходу на залатых крылах-праменьнях, разьвейваючы цёмру ночы, нявідомымі ручайкамі ўліваючыся ў сэрцы людзей, завучы іх да жыцьця і змаганьня, перамогі і шчасьця...

I ўзбудзжаліся гаротныя, цягнуліся сустрэч прагавітыя жаданьні, радасна вітаючы прамень спадзей магутных...

Дзень надыходзіў. Ужо поўным кругам каціласе сонца на гарызонце, абліваючы цяплом засьнежаныя ваколіцы старога места. Лес заварушыўся. Пульхныя камкі сьнегу падталі і пазвальваліся з галін. Белыя скаты гор аддавалі мільёнамі іскраў; дарогі блішчэлі. Са стрэх парожніх летнікаў, там і сям прытуліўшыхся да прыгоркаў, беглі частыя каплі. Высокае неба не засмянялася ніводнай хмаркай. У паветры было сьветла, цёпла, ціха; толькі густое, ўрачыстае гудзеньне саборнага звону пераліваласа па лесе, паведамляючы людзей аб сьвяце.

I на гэты звон прачхнулася Стахурская. Выцягнуўшы худую руку з-пад старых лахманоў і адкінуўшы назад сівыя валасы, яна пераажагналася і зірнула ў вакно.

— „Дзякуй Табе, Божа, за сьветлы дзянёк, хай хоць ён прыгрэець мае старыя косьці“.

З гэтымі словамі яна паднялася з ложка. Белая пара, як дым, ішла з яе рота і паказавала, што ў яе куханьцы было так сама сьцюдзена як і ў сумежных пакоях закватараванага ёю парожняга летніка. Але вясёлая гульня сьвятла так уразіла Стахурскую, што яна й нячула сьцюжы; не сьпяшаючыся апранулася, падпаліўшы сухіх сукоў пад пліту, паставіла ваду на гарбату, а сама ўзяла са стала стары таўсты малітвенік і прысела перад агнём на зэдлічку. Нейкі час яна прыслухалася да аксамітнага бурчэньня звону, пакрываўшага агульную цішу і памалу перавара-чвала карты малітвеніка. Паміж карткамі пападаліся заложаныя абразкі, некаторыя з іх яна брала ў рукі, разглядала рысы твару намалёванага сьвятога, або цікавілася хараствам фарбаў. Часам адрывалася ад малітвеніка, каб паправіць дровы ці падняць з падлогі зваліўшыся вугаль і кінуць яго ізноў пад пліту. А то проста глядзела задуманымі вачыма на агонь, прыемна адчуваючы спакой сьвяточнага настрою душы. Мінутамі ў яе галаве пралятаалі кароткія думкі аб нядаўным мінулым — то яна ўспамінала, што ўвесь гэты тыдзень яна працавала ў добрых паноў, ніводнага дня ня піла і што цяпер маець у кішані цэлых тры рублі, на якія можна было-б зрабіць шмат чаго добрага: ці купіць чаравікі і скінуць свае падраныя атопкі, ці наняць кватэру, каб ня стыць у гэтым сьцюдзёным летніку.

Аднак у гэты мамэнт ёй успомнілася добрая, але шпаркая сталярыха, каторай яна п'яная пабіла вокны і каторая ў гэтыя самыя вокны павыкідала яе манаткі, адмовіўшы гэткім чынам ёй кватэру.

К.

*(Працяг будзе).*

